ГАЎРЫЛА ГАРЭЦКІ

# ДАСЬЛЕДЧАЯ СПРАВА ПА СЕЛЬСКАЙ І ЛЯСНОЙ ГАСПАДАРЦЫ БССР



ВЫДАНЬНЕ НАРКАМЗЕМУ БССР
МЕНСК 1929

ГАЎРЫЛА ГАРЭЦКІ

# ДАСЬЛЕДЧАЯ СПРАВА
## ПА СЕЛЬСКАЙ і ЛЯСНОЙ ГАСПАДАРЦЫ БССР

(У сувязі з мерапрыемствамі па ўздыму вытворчых сіл сельскай гаспадаркі)








ВЫДАНЬНЕ НАРКАМЗЕМУ БССР
МЕНСК 1929

„Задача пра два каласы, можа быць.—самае балючае, самае карэннае пытаньне, якое ў бліжэйшай будучыне належыць вырашыць у нашай краіне“.

„Што-ж трэба зрабіць, каб вырашыць гэту задачу пра два каласы. Хто прынясе гэту разгадку.—Навука“

*К. А. Ціміразеў.*

„Беларусі (Заходняму краю) бясспрэчна належыць ня толькі фармальнае, але і ідэёвае пяршынства ў рэфармаваньні расійскае гаспадаркі на навуковых падставах і ў арганізацыі расійскае агранамічнае школы і расійскае дасьледчае справы“.

*Ул. Ул. Вінэр.*

„Перагнаць капіталістычную тэхніку,—гэта значыць—нагнаць і перагнаць капіталістычную навуку“.

*Н. Бухарын.*

## 1. Гісторыя і сыстэма дасьледчае справы БССР.

Мануфактуру замяніла фабрыка, дзякуючы вялікаму тэхнічнаму пераварату ў Англіі ў пачатку XIX стагодзьдзя. „Мануфактурную“ тэхніку сельскае гаспадаркі замяніла тэхніка „навуковага земляробства“, дзякуючы навуковым вынаходкам у галіне фізыялёгіі расьлін і агранамічнай хіміі, таксама ў пачатку XIX стагодзьдзя (вынаходкі Сенебье, Соссюра, Грандо, Дэві [1]), Бэрцэліўса, асабліва Ж. Бусэнго, Лооза і Лібіха).

[1]) Дэві казаў: „Нішто ня было-б так карысна для земляробства, як шэраг дэталёвых досьледаў, у якіх адзначаліся-б усе ўмовы, што ўплываюць на ўраджай. Але гэты шлях дае вынікі толькі пастольку, паколькі мэтады досьледаў стануць больш дасканалымі“, цытую па Д. Н. Пранішнікаву „К истории развития основных воззрений в агрономии 1806—1906“. М. 1906, ст. 13. Дэві прадчуваў ужо патрэбу і значэньне будучых дасьледчых станцый.

Гэтае саўпаданьне дат не выпадкова: яно сьведчыць аб цеснай узаемнай сувязі разьвіцьця прамысловасьці і сельскае гаспадаркі—з аднаго боку, аб адзінстве навукі, аб узаемнай сувязі разьвіцьця паасобных галін навукі—з другога боку.

2. Пачатак „навуковага земляробства" зьяўляецца такім чынам і пачаткам заснаваньня дасьледчых станцый: першая самастойная дасьледчая станцыя была заснавана ў 1852 г. (па іншых крыніцах—у 1851 г.) у Меккэрне каля Лейпцыгу, значыцца 77 год назад,—так лічуць нямецкія вучоныя і частка расійскіх (напр., праф. Д. Н. Пранішнікаў [1]); французы і ангельцы (з расійскіх дасьледчыкаў праф. К. А. Цімiразеў) лічуць першымі дасьледчымі станцыямі—станцыю ў Бехельбронне), заснаваную Ж. Б. Бусэнго ў 1834 ці 1835 г. [2]) і Ротгамстэдскую станцыю, каля Лёндану, заснаваную Д. Б. Лозам (і Гільбэртам) у той-жа час, г. зн. 94 гады назад.

3. Беларусі належыць выдатная роля ў гісторыі дасьледчае справы Расіі, усёй Усходняй Эўропы і нават усяго сьвету. Стэбутаўскае Дасьледчае Поле ў Горках было заснавана на 30 скарбовых дзесяцінах у 1840 годзе, г. зн. на 12 гадоў раней Станцыі ў Меккэрне, якую звычайна лічаць першай па заснаваньню ў сьвеце і толькі на 5 год пазьней найвыдатнейшай сусьветнай Ротгамстэдскай Станцыі; Палтаўскае Дасьледчае Поле, якое доўгі час лічылася першай дасьледчай установай Расіі і Украіны, было заснавана на 45 год пазьней першага беларускага дасьледчага поля.

Беларусі належыць пяршынства ў дасьледчай справе Саюзу і ў галіне зоатэхніі і мэліярацыі. Першая Зоатэхнічная Дасьледчая Станцыя былой Расіі заснавана ў 1854 г. ў Горках, пад кіраўніцтвам праф. Краўзэ, г. зн. 75 год назад. Першы дрэнаж у былой Расіі быў пабудаваны таксама на Беларусі, у Горках, на плошчы ў 103 гэктары, у 1856 годзе, пад кіраўніцтвам праф. Казлоўскага, гэта значыць 73 гады назад.

На Беларусі знаходзіцца буйная гаспадарка, у якой упяршыню ў былой Расіі было заведзена рацыянальнае

---

[1]) Цытаваная праца. стар. 31.

[2]) К. А. Цімiразеў лічыць пачаткам 1835 год. калі фактычна пачалася праца. „Полвека опытных станций".

рахункаводзтва; гэта Горацкая фэрма, дзе з 1836 году аж да сучаснасьці захован рахункаводны матар'ял па фэрме, г. зн. за 93 гады.

І ў апошні час Беларусь па некаторых галінах досьледу зьяўляецца піанэрам у Саюзе Рэспублік; у 1912 годзе ў Менску заснавана першая ў былой Расіі Балотная Дасьледчая Станцыя; у 1927 годзе заснавана першая ў СССР спэцыяльная Сьвінаводная Дасьледчая Станцыя[1]).

4. Пачатак агранамічнай асьветы і дасьледчае справы на Беларусі прыпадаюць на час крэпацкага прыняволеньня Беларускага сялянства, час эканамічнага заняпаду і бяспраўя Беларусі, калі адзін выгляд беларускіх сялян каля Горак прыводзіў першых аграномаў-арганізатараў Земляробчай Школы Стэндэра і Фёдарава „в ужас и содрогание“[2]): зразумела, у той час ні агранамічная асьвета, ні дасьледчая справа не маглі мець уплыву на навакольнае напоўжабрацкае сялянства.

Граф Мураўёў-Душыцель зьнішчыў у 1864 годзе разам з агульным прыгнётам беларускае культуры і першыя пачаткі сельска-гаспадарчага досьледу і агранамічнае асьветы.

Цэлых паўвека Беларусь заставалася глухою правінцыяй царскай Расіі ўва ўсіх галінах гаспадарчага і грамадзкага жыцьця, у тым ліку і ў галіне сельска-гаспадарчае асьветы і дасьледчае справы; толькі ў 1903 годзе было арганізавана Тугановіцкае Дасьледчае Поле ля Наваградку ды перад самай вайной Дасьледчая Станцыя ў Беняконях і Менская Балотная Станцыя.

5. Росквіт дасьледчае працы пачынаецца на Беларусі пасьля Рэвалюцыі, разам з палітычным і гаспадарчым

---

[1]) Літаратура па гісторыі дасьледчае справы на Беларусі: 1) Праф. У. У. Вінэр—„Краткий обзор истории Горы-Горецкого Земледельческого Института“ і „Деятельность И. А. Стебута“ у „Записках Горецкого С.-Х. Инст. Т. 1, 1924 г.“;—2) Праф. А. Д. Дубах—„История и действие первого дренажа в России“ у „Записках Горецкого С.-Х. Инст. Т. II, 1925 г.“; 3) Праф. У. У. Вінэр—„Сельско-Хозяйственное Опытное Дело в Западной Области“ у „Трудах Горецкой Сельско-Хозяйственной Опытной Станции за 1921-23 г. г.“ і 4) Праф. П. М. Пелехаў—„К истории опытного сельско-хозяйственного дела в России“ у „Записках Белорусской Государственной Академии сельского хозяйства Т. III, 1927 г.“.

[2]) Праф. Вінэр „Краткий обзор...“, ужо цытаваная праца, стар. 20.

аднаўленьнем Беларусі: у 1919 годзе пачынае працу Магілеўская Станцыя Лекавых Расьлін, у 1920 годзе—Горацкая Дасьледчая Станцыя, у 1922 годзе—Беларуская Аграномічная Станцыя (Менская Расьлінаводная), Забалацкая Балотная Дасьледчая Гаспадарка, Турская Дасьледчая Станцыя і Віцебская Дасьледчая Станцыя, у 1923 годзе—Менская Машынаспробная Станцыя, Мэтбюро, Станцыя Аховы Расьлін, у 1925 годзе—Палеская Дасьледчая Станцыя, у 1926 годзе—Цэнтральная Лясная Дасьледчая Станцыя, у 1927 годзе—Навукова-Дасьледчы Інстытут імя Леніна з Аддзеламі Ляснай гаспадаркі, мэліарацыі і культуры балот, сельска-гаспадарчай эканоміі і аграрнай палітыкі, Цэнтральнай Хімічнай Ляборатарыяй і Бюро Сялян-Дасьледчыкаў, у 1928 годзе—Аддзелы Расьлінагадоўлі і прыкладное (застасоўнае) батанікі і Аддзел жывёлагадоўлі і прыкладной зоалёгіі НДІ, Цэнтральная Сьвінаводная і Цэнтральная Бульбяная Станцыі, Станцыя буйнай рагатай жывёлы, Палескае Балотнае Дасьледчае Поле, Цэнтральная Тарпяная Станцыя. У гэты-ж час разгортваюцца новыя аддзелы ўжо існуючых дасьледчых станцый, праводзіцца шэраг экспэдыцыйных дасьледваньняў.

6. Характэрнай асаблівасьцю ў гісторыі разьвіцьця беларускіх дасьледчых станцый і ўстаноў зьяўляецца зацяжка іх арганізацыйнага пэрыяду, сярэдне на 3—4 гады, надзвычайна маруднае разьвіцьцё і фінансаваньне іх у першыя гады.

**Горацкая Дасьледчая Станцыя** першыя два гады жыла на мізэрныя асыгнаваньні Сельска-Гаспадарчага Інстытуту, пэнсія плацілася напалову натураю; у 1923 годзе Станцыя зачыніла частку аддзелаў з-за недахопу сродкаў; першыя два гады пэрсанаadditional аддзелу Жывёлагадоўлі Горацкае Станцыі складаўся з аднаго загадчыка, у 1924 годзе „ассигнования из НКЗ на станцию были прекращены и станция, как таковая, была ликвидирована“ [1]).

**Віцебская Дасьледчая Станцыя** першыя два гады вяла працу „на хозрасчете“. „Будучи поставлена на самоокупаемость, Станция, конечно, была лишена возможности развер-

---

[1]) Праф. Найдзёнаў. „Отчет по отделу животноводства“ у „Трудах Горецкой С.-Х. Опытной Станции за 1921-23 г. г.“. Горки, 1924 г. стар. 77.

нуть широко опытную работу, т. к. пришлось сократить ботаника и временно прекратить работу химической лаборатории за неимением средств на оплату труда указанных специалистов“ [1]). „При большой напряженности бюджета Витебской Станции уделено было чрезвычайно незначительное внимание, а в 1923 году при перестройке губернского бюджета в уездный дотация свелась к нулю и, таким образом, Опытная Станция оказалась под ударом хозрасчетного существования“ [2]). У 1925/26 годзе ад Гароднага Аддзелу Віцебскае станцыі была адабрана частка зямельнай плошчы, праз што прышлося зламаць і перабудоўваць увесь плян досьледаў Гароднага Аддзелу.

**Беларуская Агранамічная Станцыя** была перанесена без належных падстаў з Банцараўшчыны на Пярэспу ва ўмовы, няздатныя для дасьледчых мэтаў. Зараз Станцыю трэба пераносіць у новае месца, такім чынам згублена на арганізацыйны пэрыяд 7 год.

**Турская Станцыя** ўвесь час „вяла сваю працу ў вельмі цяжкіх матар'яльных умовах. Першыя два гады на ёй працаваў адзін спэцыялісты-аграном: вядома, што аднэй асобе немагчыма было паставіць дасьледчую працу у строгай адпаведнасьці з навуковай мэтодыкай“ [3]). „Толькі з 1927 г. сьледам водпуску сродкаў з дзяржбюджэту на дасьледчую працу, апошняя пачала выпаўняцца больш дасканальнымі мэтадамі“ [4]).

**Забалацкая Балотная Дасьледчая Гаспадарка** навуковую працу вяла галоўным чынам за сродкі самой гаспадаркі, а не за каштарысныя асыгнаваньні. „Уся праца па арганізацыі Балотнай Гаспадаркі, а ў далейшым і ўсе адміністрацыйна-гаспадарчыя абавязкі, а таксама вопытна-палявыя працы і назіраньні выконваліся адным загадчыкам на працягу ўсяго справаздачнага часу“ (1922—1926 г. г.). „Абмежаванасьць, спэцыяльнага пэрсаналю (адна асоба) складала

1) „Витебская С.-Х. Опытная Станция. Краткий Отчет о деятельности за 1923-24 г., Витебск, 1925 г.“ Стар. II.

2) Там-жа, стар. 8.

3) М. Драздоў. Галоўныя вынікі з працы Турскай Сел.-Гасп. Дасьледчай Станцыі 1927 г. Прадмова.

4) Там-жа.

для яго перагружанасьць, распыленасьць і адбівалася на самой працы, якая акрамя таго парушалася малым водпускам сродкаў“ [1]).

**Палеская Дасьледчая Станцыя** ўжо чатыры гады ўсё яшчэ ў стадыі арганізацыі і г. д.

7. Дасьледчыя станцыі, якія арганізоўваюцца ў апошнія гады, маюць значна карацейшы пэрыяд арганізацыйнае працы, ён скарачаецца да 1—2 гадоў: Цэнтральная Сьвінаводная Станцыя, Цэнтральная Тарпяная Станцыя і г. д.

8. Гісторыю разьвіцьця дасьледчае справы БССР за пасьлярэвалюцыйны час можна падзяліць на два этапы: першы, прыблізна да 1925 году,—арганізацыя раённых дасьледчых станцый; другі, асабліва з часу заснаваньня Н. Д. І.,—арганізацыя спэцыяльных дасьледчых станцый. Першы этап—ёсьць будаўніцтва беларускае дасьледчае справы па старых традыцыях „русского опытного дела“, перанясеньне гэтых традыцый на беларускую глебу, другі азначае шуканьне самастойных шляхоў, прыстасаваных да асаблівасьцяў беларускае сельскае гаспадаркі, вынікаючых з гэтых асаблівасьцяў.

9. Расійская дасьледчая справа значна розьніцца ад дасьледчае справы Заходняе Эўропы і набліжаецца да арганізацыі амэрыканскай. Вялізныя прасторы Расіі, Украіны, Амэрыкі вымагалі падзелу гэтых краін на значныя фізыка-гэаграфічныя краі (вобласьці), зоны, раёны, з сваімі асаблівасьцямі нятолькі ў глебе, але і ў клімаце, і ў эканоміцы. Для абслугоўваньня гэтых вялікіх краёў (вобласьцяй) і ўтварыліся краёвыя (вобласныя) дасьледчыя станцыі, а для асобных раёнаў гэтых краёў—раённыя станцыі. Каб абслужыць усе галіны сельскай гаспадаркі краю, краёвыя станцыі, зразумела, павінны быць унівэрсальнымі. Раённыя станцыі зьяўляюцца як-бы падсобнымі ў адносінах да краёвых, увязанымі з імі ў адну сыстэму дзейнасьці, з меншым лікам аддзелаў, чым на краёвых станцыях.

Для краін Заходняй Эўропы, краін з малымі тэрыторыямі, характэрна разьвіцьцё малых дасьледчых станцый, прыстасаваных пераважна да глебавых раёнаў (а не да

[1]) „Кароткая справаздача аб працы Забалацкай балотнай дасьледчай гаспадаркі за 1922—26 г. г., А. І. Шохар. Рагачэў, 1927 г. стар. 9.

кліматычных і эканамічных), або станцый цалком спэцыяльных, прыстасаваных да таго пункту, дзе тое ці іншае гаспадарчае або прыроднае зьявішча, якое спэцыяльныя станцыі вывучаюць, лёкалізавана. Для амэрыканскіх дасьледчых устаноў характэрна іх цесная сувязь з вышэйшаю школаю.

10. Аўтар (абласнога) краёвага прынцыпу пабудовы дасьледчае справы праф. У. У. Вінэр склаў падзел былш. Расіі на раёны і праэкт арганізацыі краёвых станцый у 1908 годзе. За 20 гадоў рэалізацыя гэтага пляну не дала цалком станоўчых вынікаў: краёвыя станцыі, за невялікім выключэньнем, ня спраўдзілі сваё прызначэньне (Кіеўская, Харкаўская, Адэская, Маскоўская, Энгельгардтаўская станцыі): некаторыя краёвыя станцыі распадаліся на цэлы комплекс самастойных станцый (Маскоўская, Кіеўская), разгортвалі толькі некаторыя аддзелы на шкоду другім, стварылі канкурэнцыю з раённымі станцыямі, былі занадта неэластычны і грамоздкі, каб здавальняюча адказаць на ўсе вымаганьні шыбкага разьвіцьця сельска-гаспадарчай практыкі [1]). Адначасова паўстаў шэраг спэцыяльных дасьледчых станцый, некаторыя раённыя станцыі выперадзілі ў сэнсе дасягненьняў краёвыя станцыі, пачалі паўставаць спэцыяльныя навукова-дасьледчыя інстытуты на Украіне і ў РСФСР. Жыцьцё парушыла ўвесь плян, унесла ў яго прынцыповыя зьмены.

Шукаць тлумачэньня гэтаму зьявішчу, крызісу краёвых дасьледчых станцый, у асабістых здольнасьцях кіраўнікоў дасьледчых станцый, у барацьбе за сродкі і таму падобных суб'ектыўных фактах,—было-б памылкай. Відавочна, ёсьць гэтаму нейкія сталыя, грунтоўныя і аб'ектыўныя прычыны. Такой прычынай трэба лічыць несаўпаданьне радыюсаў і тэрыторый прымянімасьці вынікаў досьледаў па розных галінах дасьледваньня і гаспадаркі. Вынікі краёвых станцый па паляводзтву не дасягалі радыюсу нават краю, яны часамі не сягалі далей межаў 1—2 раёнаў; вынікі па энтамалёгіі, па жывёлагадоўлі, па садоўніцтву, гародніцтву, па машыназнаўству сягалі далёка

[1]) Гл., напрыклад, ацэнку працы краёвых дасьледчых станцый Украіны ў артыкуле С. Кулжинського „Крайові с. г. досьвідні станції та специяльні с. г. дослідчі інститути па Украіні", часопіс „Віснік с. г. науки та досвідноі справи" т. V, № 6. Харків, 1928 г.



за межы краю і г. д. Крызіс краёвых станцый адзначае крушэньне толькі аднаго краёвага прынцыпу, а не раённага; раённы прынцып перамог, толькі замест унівэрсальных раёнаў для дасьледчае справы высунулася значэньне спэцыяльных раёнаў, а разам з гэтым і спэцыяльных станцый, спэцыяльных навукова-дасьледчых інстытутаў.

Недахоп краёвага прынцыпу пабудовы дасьледчае справы асабліва стаў адчувацца з павялічэньнем рознастайнасьці сельскае гаспадаркі, з пераходам зернавое гаспадаркі ў жывёлаводную і прамыслова-тэхнічную.

11. На першым этапе гісторыі разьвіцьця дасьледчае справы Беларусі перанос на Беларусь традыцый расійскае дасьледчае справы (краёвага напрамку) выявіўся:

а) у раздрабленьні краёвых заданьняў паміж раённымі станцыямі, стварэньні з раённых станцый „краёвых станцый ў мініатуры", напр., Энгельгардтаўская, Горацкая, Навазыбкаўская, Менская (раённыя у н і в э р с а л ь н ы я станцыі);

б) у разьвіцьці пераважна дасьледчых установаў па палявой гаспадарцы, ці шырэй—расьлінагадоўлі і ў слабым разгортваньні вывучэньня спэцыяльных галін—жывёлагадоўлі, інтэнсіўных культур і гэтак далей.

12. Быў у гісторыі беларускае дасьледчае справы і пэрыяд змаганьня двух напрамкаў па мэтаду дасьледваньня: змаганьне за пераважнае значэньне вэгэтацыйнага і палявога мэтаду. Прадстаўнікі вэгэтацыйнага мэтаду, зусім правідлова ацэньваючы вялікае значэньне гэтага мэтаду, не даацэньвалі ў нашых умовах значэньня палявога мэтаду, адваротны кірунак (недаацэнка вэгэтацыйнага мэтаду), амаль ня быў пашыран і перамагло правідловае вырашэньне, якое прызнала неабходнасьць і таго і другога мэтадаў.

Аднак, прыхільнікі перавагі вэгэтацыйнага мэтаду пакінулі па сабе рэальныя сьляды—у справе арганізацыі Менскае Аграстанцыі на Пярэспе: перанесьці агранамічную станцыю з больш-менш (хоць і ня зусім) здавальняючых умоў Банцараўшчыны на невялічкі падгародны кавалак у 30—35 гэктараў на Пярэспе, з трымя тыпамі глеб на гэтым кавалку, з рэзкімі зьменамі рэльефу, маглі толькі дасьледчыкі, якія наогул глядзяць скэптычна на палявы мэтад. Ня гледзячы на гэта, самы факт спрэчкі за два

мэтады дасьледваньня ў самым пачатку беларускае дасьледчае справы, зьяўляецца прыемным сьведкам дасьпеласьці беларускае дасьледчае думкі, сьведкам, што спрэчкі па мэтадалёгіі дасьледваньняў заўсёды будуць у цэнтры ўвагі беларускіх дасьледчыкаў [1]).

13. Другі этап гісторыі пасьлярэвалюцыйнае дасьледчае справы Беларусі (ці трэці этап храналёгічна) быў часам будаўніцтва спэцыяльных дасьледчых станцый. За падставу арганізацыі дасьледчае справы НДІ імя Леніна былі пакладзены такія прынцыпы [2]):

1. Навукова-дасьледчая праца павінна адпавядаць тыпу сельскае і лясное гаспадаркі тэй ці іншай краіны, эвалюцыі гэтага тыпу, інтэнсіўнасьці гаспадаркі краіны.

2. Навукова-дасьледчая праца павінна здавальняць патрэбы дзяржаўных і грамадзкіх мерапрыемстваў па аднаўленьні і разьвіцьці сельскае і лясное гаспадаркі.

Выходзячы з азначэньня тыпу беларускае сельскае гаспадаркі, як жывёлаводнага, інтэнсіўна-мясного, з прамыслова-тэхнічным паляводзтвам, эвалюцыі сельскае гаспадаркі ў бок стварэньня гэтага тыпу і параўнальна вышэйшай інтэнсіўнасьці сельскае гаспадаркі БССР ад іншых раёнаў Саюзу; выходзячы з пэрспэкцыйнага пляну будаўніцтва сельскае і лясное гаспадаркі БССР, якое ў асноўным будзе накіравана на жывёлагадоўлю, землеўпарадкаваньне і мэліарацыю, інтэнсіўную палявую гаспадарку і лес,—трэба прыняць наступныя меркаваньні:

1. Навукова-дасьледчая праца БССР павінна быць такойжа інтэнсіўнай, адносна іншых сельска-гаспадарчых раёнаў СССР, як інтэнсіўна сельская гаспадарка Беларусі.

---

[1]) К. А. Ціміразеў надаваў асаблівую вагу вэгэтацыйнаму мэтаду. У прамове „Полвека опытных станций" у 1885 годзе ён казаў: „все более и более вырабатывается тип того. что можно назвать растительно-физилогической станцией. не ведущей никакого полевого хозяйства и довольствующейся самым ограниченным пространством земли... Все то. что сельские хозяева нередко величают этим именем (опыт),—только более или менее грубые наблюдения. приобретаюшие цену лишь при увеличении их числа. В немецкой агрономической литературе все более и более определенно высказы-

[2]) „Сельская і лясная гаспадарка" № 1, 1927 г. „Асноўныя лініі навукова-дасьледчае працы па сельскай і лясной гаспадарцы БССР". Г. Гарэцкі, стар. 6—7, 9—10.

2. Аб'ектам сваёй дзейнасьці яна павінна браць: жывёлагадоўлю, у першую чаргу сьвінагадоўлю, гандлёва-тэхнічныя культуры, у першую чаргу бульбу, пытаньні тэхнікі паляводзтва, зьвязаныя з пераходам ад трохпалёвых і палепшаных трохпалёвых да беспарных і пладазьменных сыстэм палявой гаспадаркі; лясную гаспадарку, асабліва інтэнсіўныя яе формы; мэліарацыю і культуру балот; земляўпарадкаваньне, індустрыялізацыю сельскае гаспадаркі і яе калектывізацыю.

Паколькі раённыя дасьледчыя станцыі былі ўжо створаны, НДІ пачаў арганізоўваць спэцыяльныя дасьледчыя станцыі: Цэнтральную Сьвінаводную, Цэнтральную Бульбяную, Станцыю буйнай рагатай жывёлы, Гідра-лесамэліарацыйную, Мэліарацыйна-гідралёгічную і г. д.

Спэцыяльныя станцыі відавочна павінны пашыраць свой уплыў да меж спэцыяльнага раёну, напр., Палесскае Дасьледчае Балотнае Поле на Палесьсе; калі гэты раён уключае ў сябе ўсю БССР, станцыя робіцца Цэнтральнай, напр., Цэнтральная Сьвінаводная, Цэнтральная Бульбяная і г. д.

Пунктам разьмяшчэньня тэй або іншай спэцыяльнай Станцыі павінен зьяўляцца цэнтр, максімальная лёкалізацыя тых аб'ектаў, якія вывучае станцыя.

14. Так склалася сучасная сетка дасьледчых установ Беларусі, сучасная сыстэма дасьледчае справы БССР. У асноўным гэта сыстэма амаль пабудавана. З пабудовай на бліжэйшае пяцігодзьдзе Гомельскай Садова-Гароднай Станцыі, Палесскага Дубраўнага Лясьніцтва і дасьледчых установ НДІ ля Менску: Хіміка-Тэхналёгічная Лябараторыя, Менская Расьлінаводная Станцыя на новым месцы, Махавое Балотнае Дасьледчае Поле, Гідра-Мэханічная Лябараторыя,

---

вается этот взгляд, а вместе с тем изменяются и задачи опытных станций. Авторитетные голоса высказываются против существования опытных полей при станциях. Наблюдения на опытных полях, по их мнению, должны производиться самими хозяевами, в возможно большем числе, при возможно разнообразных условиях, и метод должен быть чисто статистический, устраняющий ошибки или частности путем средних чисел. На станциях же должны производиться опыты строго научные, методом экспериментальным, применимым только в небольших квадратах земли или в ящиках...“ К. А. Ціміразеў надаваў вядомае значэньне і досьледу ў полі, асабліва параўнальным досьледам у пасудзінах і ў полі.

Сьляпянскае Дасьледчае Лясьніцтва, Дэндралёгічны Парк і Гэафізычная Абсэрваторыя, — гэта сыстэма атрымае сваё поўнае завяршэньне.

Арганізацыйна пры поўнай пабудове ўсёй сыстэмы дасьледчай справы БССР—за НКЗ засталіся-б усе раённыя дасьледчыя станцыі і частка спэцыяльных з навукова-практычнымі заданьнямі; НДІ, як самастойная навукова-дасьледчая вышэйшая ўстанова па сельскай і лясной гаспадарцы БССР, меў-бы вельмі моцны і аўтарытэтны навуковы цэнтр у Менску і частку спэцыяльных навукова-дасьледчых установ на пэрыфэрыі. Праз уваход у склад Усесаюзнай Акадэміі сельска-гаспадарчых навук імя Леніна, НДІ зьвязваў-бы ўсю дасьледчую справу Беларусі з дасьледчай справаў іншых Саюзных Рэспублік.

15. Сучаснае становішча дасьледчых установ БССР усё-ж ня можна лічыць здавальняючым: дэфіцытнасьць, неарганізаванасьць і запазычанасьць гаспадарак дасьледчых станцый, недахоп будынкаў для дасьледчых мэтаў, зусім беднае абсталяваньне, надзвычайна малы лік навуковага пэрсаналю асабліва з вялікім дасьледчым стажам, недахоп навуковай літаратуры, невялікія бюджэтныя асыгнаваньні, слабая сувязь з насельніцтвам, неразгорнутасьць многіх досьледаў згодна праграме і г. д.

---

## II. Дасягненьні дасьледчых устаноў БССР.

Зусім пэўных вынікаў дасьледваньня, з прычыны няскончанасьці большасьці досьледаў, дасьледчыя станцыі БССР маюць мала. Некаторыя вынікі, як папярэднія, можна, аднак, падаць ужо зараз.

### 1. Па сельска-гаспадарчай эканоміі.

А. Экспэдыцыя па вывучэньню пасялковай формы землякарыстаньня:

1. Пасёлкі ў параўнаньні з вёскамі, з якіх яны выдзелены, маюць такія перавагі:

а) Зьмяншаецца коэфіцыент конфігурацыі ад 1,59 да 1,21.

б) Зьмяншаецца сярэдняя адлегласьць палёў з 1.626 мэтр. да 708 мэтр.

в) Зьмяншаецца колькасьць палосак у 2—3 разы і павялічваецца іх плошча ад 0,12 га да 0,44 га.

г) Зьмяншаюцца адносіны паміж шырынёю і даўжынёю палосак ад 1 : 200 да 1 : 15.

2. Праз 4 гады пасёлкі далі такі гаспадарчы эфэкт:

а) Плошча землякарыстаньня павялічылася на 24 проц.

б) Кошт асноўных сродкаў вытворчасьці павялічыўся на 23 проц.

в) Інтэнсіўнасьць гаспадаркі зьнізілася на 9 проц. (замест 65 руб. гуртавой прадукцыі на 1 га да 50 руб.).

г) Павялічыліся засевы бульбы, лёну і траў.

д) Плошча пад незасеяным папарам зьнізілася ў два разы.

е) Зьнізілася ўраджайнасьць усіх палявых культур (да 10 проц.), асабліва інтэнсіўных збожжавых—пшаніца, ячмень, жыта, ураджайнасьць бульбы павялічылася на 3—5 проц.

ж) Унутрыгаспадарчы транспарт зьнізіўся ў два разы.

з) Аптымальная тэрыторыя пасёлкаў устаноўлена:

Ніжэйшая мяжа (поўнае скарыстаньне складаных сельска-гаспадарчых машын)—80 га, вышэйшая мяжа (выгаднасьць на самых далёкіх палёх сеяць бульбу)—250 га.

Б. Экспэдыцыя па вывучэньню тэхніка-эканамічнага эфэкту земляўпарадкаваньня.

1. Земляўпарадкаваньне зьмяняе клясавыя суадносіны ў вёсцы: узмацняе гаспадарча групу беднякоў і сераднякоў і паслабляе групу заможных.

2. Павялічвае агульную плошчу землякарыстаньня і процант больш інтэнсыўных ужыткаў (ворная зямля).

3. Зьмяншае міжпалосіцу.

4. Дае калёсальную эканомію ў стратах рабочых сіл і транспарту, якія ў першыя-ж гады ў некалькі разоў перавышаюць страты на правядзеньне земляўпарадкаваньня і арганізацыю гаспадаркі на новым месцы (80 руб. на га).

В. Экспэдыцыі па эканоміцы мэліарацыі:

1) Устаноўлены раёны інсэнсыўных і экстэнсыўных мэліарацый на Беларусі.

2) Устаноўлены найбольш выгадныя ў эканамічным сэнсе адлегласьці між каналамі.

Г. Экспэдыцыя па вывучэньню экономікі ільняной культуры:

1) Устаноўлен факт глыбокага крызісу таварнай ільняной гаспадаркі.

2) Таварнасьць ільнянога валакна вельмі высокая—62,5%.

3) Выхад таварнае масы валакна надзвычайна малы—2,47 п. на адну гаспадарку.

4) Ураджайнасьць лёну стаіць на ніжэйшай ступені—11,74 пуды на гэктар.

5) Нізкая ўраджайнасьць зьяўляецца прычынай малага выхаду рыначнага валакна: збор 3,95 пуд. пры засеве 0,35 га на адну гаспадарку, альбо 12,2 проц. засеўнай плошчы.

Д. Экспэдыцыя па эканоміцы сельскае гаспадаркі Мазырскага Палесься:

1) Устаноўлен тып сельскае гаспадаркі Мазырскага Палесься: экстэнсыўна-мясная таварная жывёлагадоўля і экстэнсыўная спажывецкая палявая гаспадарка.

2) Выяўлен факт павялічэньня таварнасьці мясной жывёлагадоўлі за апошнія 5 год і выпадзеньне мясцовага збожжа з гандлёвага звароту.

3) Устаноўлена адпаведнасьць тыпа гаспадаркі знадворным прыродным і эканамічным умовам і немагчымасьць зьмены гэтага тыпу бяз зьмен знадворных умоў—мэліарацыя і будаўніцтва шляхоў зносін.

4) Выяўлена памылка асноўных установак мясцовага, акругова пэрспэкцыйнага пляну сельскае гаспадаркі, проэктаваньне разгортваньня малочнае гаспадаркі, засеваў канюшыны і г. д.

5) Выяўлены прогрэсыўныя гаспадарчыя „гнёзды“ Палесься і прычыны іх прогрэсыўнасьці: блізкасьць да рынку, добрыя шляхі зносін, малое значэньне лясных і дзікіх лугавых ужыткаў, калёністцкі тып пасяленьняў, са значным укладаньнем капіталу ў пачатку засяленьня.

6) Вызначана калёнізацыйная ёмкасьць Палесься першай чаргі калёнізацыі—100.000 насельніцтва, і магчымасьць пабудовы буйных лугавых гаспадарак.

7) Вызначана нізкая зоатэхнічная якасьць мясцовага быдла.

8) Устаноўлена трох-яруснасьць палявой гаспадаркі і магчымасьць узьняць ураджайнасьць 3-га ярусу толькі шляхам лубінізацыі і таннага мінэральнага ўгнаеньня.

9) Устаноўлен факт павялічэньня валоў, як рабочай жывёлы, у апошнія гады.

Е. Экспэдыцыя па вывучэньню рыначнай сьвінагадоўлі Случчыны:

1) Устаноўлены сьвінаводныя чатырохгадовыя цыклі і сувязь іх са зборамі бульбы ў БССР і хістаньнямі цэн сьвініны на нямецкім рынку.

2) Высьвятлен факт зьніжэньня ўбойнага ўзросту сьвіньні і надзвычайна шырокай мэтызацыі сьвінагадоўлі на Случчыне—да 60 проц. стада,—усё гэта адзнакі інтэнсіфікацыі сьвінагадоўлі.

Ж. Экспэдыцыя па эканамічнаму профілю БССР.

1) Галоўнаю прычынаю зьмен форм сельскай гаспадаркі БССР у напрамку з Захаду на Ўсход зьяўляецца рыначнае палажэньне.

2) Пры аднакавай вялічыні засеўнай плошчы на гаспадарку, пры аднакавым забясьпечаньні сродкамі вытворчасьці—запас рабочай сілы ня робіць ніякага ўплыву на тып

сельска-гаспадарчага вытвару, на тып палявой гаспадаркі і на тып жывёлагадоўлі.

З. Экспэдыцыя па эфэктыўнасьці сельска-гаспадарчага крэдыту.

1) Сялянская гаспадарка Беларусі вельмі мала насычана крэдытам.

2) Найбольшы недахоп крэдыту адчуваецца на корм жывёле, на штучнае ўгнаеньне, на палепшанае насеньне збожжавых культур.

3) Недахоп крэдыту на корм жывёле адбіваецца на зьніжэньні кошту жывёлы і зьмяншэньні яе прадукцыйнасьці (да 50 проц.).

4) У гаспадарках, якія карыстаюцца крэдытам, большая тkillарнасьць, большы ўзрост засеваў бульбы, лёну і траў, большы ўзрост гуртавога прыбытку.

5) Карыстаецца крэдытам каля 50 проц. усіх гаспадарак, з іх $^3/_4$ крэдытуюцца крэдытнымі таварыствамі і ¼ іншым шляхам.

6) Гаспадаркі, якія атрымліваюць крэдыт з крэдытных таварystваў, не крэдытуюцца ў прыватніка.

7) Суадносіны доўгатэрміновых і кароткатэрміновых пазык найбольш спрыяючы ў калгасах, вельмі няспрыяючы наогул, асабліва ў сялянскіх гаспадарках.

8) У крэдытаваньні бедняцкіх груп насельніцтва за апошнія гады адбылося значнае палепшаньне.

І. Дробнае раёнаваньне БССР.

1) Устаноўлены дробныя раёны тыпаў палявой гаспадаркі і тыпаў жывёлагадоўлі.

2) Устаноўлены інтэгральныя дробныя сельска-гаспадарчыя раёны.

3) У найбольш экстэнсыўных раёнах заўважваецца поўнае саўпадзеньне эканамічных і прыродных раёнаў.

4) Якасьць статыстычнага матар‘ялу перапісаў 1916 і 1917 г. г., як падстава для раёнаваньня, вельмі нізкая.

К. Формы агранамічных арганізацый БССР (папярэднія вынікі рэкагнасцыровачнага дасьледваньня).

1) Агранамічная сетка ня ўвязана з інтэнсыўнасьцю сельскае гаспадаркі БССР, а больш-менш раўнамерна раскідана па ўсёй тэрыторыі БССР.

2) Няма вытрыманае формы агранамічнае арганізацыі, канстантавана 10 схэм агранамічнае арганізацыі, пры чым больш адпавядаючай формай трэба лічыць вучастковую— падзел раёнаў на вучасткі.

3) Зьмест працы аграномаў вельмі нездавальняючы—у большасьці раёнаў процант канцылярскае і іншае няплянавае і неагранамічнае працы перавышае 30 проц., пры чым райаграномы ў большай ступені заняты неагранамічнай працаю, чым яго памоцнікі.

4) Сярод фактараў, станоўча ўплываючых на зьмест працы аграномаў, установлены — зьмяншэньне абслугоўваемае тэрыторыі, ступень земляўпарадкаванасьці гаспадарак, асьвета і стаж райаграномаў і арганізацыйныя формы,—пры падзеле раёну на вучасткі процант працы па арганізацыі гаспадаркі павялічваецца да 23,7 проц. супроць 16,8 проц. пры цэнтралізаванай.

5) Пераважная большасьць аграпрацаўнікоў раёнаў з сярэдняй і ніжэйшай адукацыяй і вельмі нязначны процант з вышэйшай адукацыяй, ды й то з малым стажам да 3-х год.

6) Выяўлена надзвычайна вялікая цякучасьць аграпэрсаналю—у сярэднім на 39 раённых працягласьць часу працы райагранома ў адным раёне 1,1 гады, а памоцнікаў 1,2 гады.

## 2. Па расьлінагадоўлі:

А. Установлена, што занятыя папары ня зьніжаюць ва ўмовах Беларусі ўраджай жыта супроць познага сялянскага папару, а павялічваюць яго; ураджай на занятых папарах зусім мала розьніцца ад ураджаю па раньняму веснавому папару (8 проц.) Па чатырохгадовых даных Менскай Расьлінаводнай Станцыі вынік гэты можна зрабіць досыць катэгарычна. Прыблізна такія-ж двухгадовыя вынікі Турскай Станцыі, прычым высьвятляецца асаблівая прыбытковасьць бульбяного занятага папару. Дрыбінскае Дасьледчае Поле паказвае ўраджаі жыта на занятых віка-аўсяных і ячменных папарах ніжэйшыя, чым па познаму сялянскаму папару, заняты бульбяны папар дае ўраджаі жыта, аднакавыя, як і па чэрвеньскаму папару. Па выніках Іваноўскага Дасьледчага Поля, за два гады занятыя папары даюць ура-

джай жыта значна вышэйшы за позны папар і блізкі да чыстага раннага папару; асабліва добрыя вынікі даў зноў-жа бульбяны заняты папар. Праф. У. У. Вінэр на падставе гэтых дадзеных піша: „В общем данные двух первых лет намечают возможность вполне благоприятного решения вопроса о полной замене парового клина кормовым без сколько-нибудь значительного ущерба для урожая озими“ [1]).

Праблема занятых папараў—ёсьць цэнтральнае пытаньне ў справе рэканструкцыі палявой гаспадаркі БССР; гэта галоўны, найбольш рэальны і найбольш прагрэсыўны шлях павялічэньня гуртавога прыбытку і гуртавое вытворчасьці сельскае гаспадаркі Беларусі. Больш таго, пры 25 проц. незанятых папараў, шлях замены гэтых папараў занятымі папарамі—ёсьць самае эфэктыўнае мерапрыемства па агульнаму прагрэсу ўсёй сельскай гаспадаркі БССР. Станоўчыя вынікі аб занятых папарах, здабытыя Беларускімі дасьледчымі станцыямі, маюць выключную каштоўнасьць.

Б. Лубін і сэрадэлл, як падсеўная і пажніўная культура, даюць па чатырохгадовых матар'ялах Менскае Расьлінаводнае Станцыі ня меншы ўраджай зялёнай масы, чым пры засеве іх у спэцыяльным кліну; гэтым даказана выгаднасьць падсеўнага і пажніўнага лубіну і сэрадэлі,—таксама цэнтральнае пытаньне палявой гаспадаркі пяшчаных раёнаў Беларусі.

В. Эфэктыўнасьць пажніўнага і падсеўнага лубіну больш, чым эфэктыўнасьць сэрадэлі. Уплыў лубіну, заворанага вясною, як і заворанага ўвосень, аднакавы. Пры засушлівым леце лепш уплывае пажніўны лубін, пры раннай і халоднай восені—падсеўны,—чатырохгадовыя матар'ялы Менскай Расьлінаводнай Станцыі.

Г. Найлепшай культурай для зялёнага ўгнаеньня на пяшчанай глебе зьяўляюцца пялюшка, потым лубін, мяшанка лубіну і пялюшкі, сэрадэля; конскія бабы зусім не падыходзяць; па суглінку найлепш—сэрадэля, пялюшка, лубін. Гэтыя 4-годнія вынікі Менскае Расьлінаводнае Станцыі асабліва яскрава вызначаюць ролю пялюшкі, як пяшчанага рэфарматара.

---

[1]) Праф. У. У. Вінэр. „Отдел полеводства за 1920—23 г. г.“ у „Трудах Горецкой С.-Х. Опытной Станции за 1921—23 г. г.“, стар. 46.





Д. Установлен вельмі значны эфэкт лушчэньня (+25%) на Менскай Расьлінаводнай Станцыі.

Е. Вынікі адносна эфэкту зяблевага ворыва супярэчлівыя: станоўчыя па Менскай Станцыі, адмоўныя па Горацкай [1]). (За тры гады).

Ж. Установлен уплыў мінэральных угнаеньняў на павялічэньне ўраджая (Іваноўскае Дасьледчае Поле); угнаеньні ў шасьціпольным лубінавым севазвароце нерэнтабельны; у шасьціпольным канюшынным сідэрацыйным севазвароце вапнавы фон нерэнтабельны, тарфяны рэнтабелен; найбольшую рэнтабельнасьць даюць у гэтым севазвароце фасфарыты і калійная соль. Агульны ўплыў мінэральных угнаеньняў вельмі значны, але ня вышэй гною.

Якасьць беларускіх фасфарытаў ня горш сешчынскіх (досьледы праф. С. В. Скандракова і О. К. Кедрава-Зіхмана).

З. Вельмі вялікая праца праведзена па сортаспрабаваньню і сортавывядзеньню, але параўнальнае падагуленьне яшчэ ня зроблена.

І. Установлены найлепшыя ў беларускіх умовах тыпы плугоў з культурным адвалам (SP6 і D7MN).

К. Установлен сталы асортымент гандлёвых садоў БССР. Дакладна дасьледвана садоўніцтва Гомельскага і Горацка-Аршанскага садовых раёнаў.

Л. Установлен склад і распаўсюджаньне сельска-гаспадарчых шкоднікаў па 4 акругах БССР.

### 3. Па жывёлагадоўлі:

А. Вывучаны матар'ялы аб ангельнскім статку быдла за 25 год утрыманьня яго ва ўмовах Горацкай фэрмы. Выявілася, што быдла паступова павялічвала ўдоі, жывую вагу, буйнела, цяліліся цяляты з большай жывой вагою, зьніжаліся захвораньні туберкулёзам; такім чынам установлена, што „ангельны являются вполне соответствующими местным климатическим и хозяйственным условиям фермы опытной станции, в которых они разводятся“ [2]).

[1]) Праф. Скандракоў. „Арганізацыя і праца аддзелу агульната ральніцтва Горацкае Раённае Сельска-Гаспадарчае Дасьледчае Станцыі“ у „Працах Горацкае Сельска-Гаспадарчае Дасьледчае Станцыі за 1924-26 г. г.“. Т. II. стар. 111—112.

[2]) Праф. Н. Найдзёнаў. „Отчет по отделу животноводства“ у „Трудах Станции за 1921—23 г. г.“, стар. 84.

Б. Вывучаны розныя групы сялянскага малочнага быдла Горацкага раёну (340 кароў): мясцовых і мэтысы іх з ангельнамі і швіцамі; ступень мэтызацыі няглыбокая (да $^{1}/_{3}$ першапачатковае розьніцы між простым быдлам і чыстакроўным), розьніца ў прадукцыйнасьці таксама малая: мясцовае быдла—54,4 кгр. масла, мэтысы-швіцы—60 кгр., мэтысы-ангельны—64,3 кгр.

В. Дасьледвана, што эфэкт „скарыстаньня зялёнай вікава-аўсянай мяшанкі большы пры кармленьні кароў скошаную травою, а эфэкт скарыстаньня канюшыны з цімафееўкай большы пры выпасе кароў па дацкаму спосабу [1]).

Г. Праведзены дзьве экспэдыцыі—па вывучэньню буйнай рагатай жывёлы ў двух акругах БССР і па вывучэньню сьвінагадоўлі ўсёй БССР.

Д. Праведзены першыя досьледы па бэконнаму адкорму з мэтай устанавіць максімальныя нормы скармліваньня зялёнай травы і бульбы. Атрыманы неспадзяваныя вынікі, што якасьць бэкону лепшая ад максымальных норм бульбы.

### 4. Па мэліарацыі і культуры балот.

А. Досьлед па дзеяньню першага дрэнажу ў СССР, які паказаў, што дрэнаж пасьля закладкі ў 1856 годзе дзейнічаў вельмі доўгі час, што ў асноўным ён на працягу 60 год захаваўся і пасьля рамонту ніжняй часткі калектараў і аднаўленьня ўтоку можа дзейнічаць надзвычайна доўгі час.

Б. Папярэднія вынікі за паўтары гады працы Аддзелу Мэліарацыі НДІ:

1. Па тэмэ „Уплыў каналізацыі на разьвіцьцё натуральнай балотнай і травяной расьліннасьці“:

а) Агульны ўраджай сена з гэктару на каналізаваным балоце (натуральная расьліннасьць) $1^{1}/_{2}$—2 тоны.

б) Уплыў каналізацыі заціхае ў сярэднім на адлегласьці 85 мэтраў.

в) Пры адлегласьці ад каналу ў 35 мэтраў ураджай сена ровен $90^{0}/_{0}$ ураджаю непасрэдна пры канаве, пры адлегласьці ў 85 мэтраў—$80^{0}/_{0}$.

---

[1]) Праф. Н. Найдзёнаў. „Аддзел жывёлагадоўлі“ у „Працах Горацкай Сельска-Гаспадарчай Дасьледчай Станцыі за 1924—26 г., стар. 163. Досьлед вёўся з 6 каровамі.

2. Па тэме „Прырост драўніны лясных насаджэньняў і якасьці яе ў розных адлегласьцях ад канаў“:

а) Пры адным экстэнсыўным асушэньні—нізіннае балота пераходзіць у бярозавы лес, пераходнае балота пераходзіць у саснова-бярозавы лес, махавае балота—у сасновы лес.

б) Каб адбыўся гэты пераход адлегласьці між канавамі павінны быць: у першым выпадку да аднаго кілёмэтру, у другім да 500 мэтраў, у трэцім да 300 мэтраў.

в) Махавае балота з чыстым сфагнавым пластам торфу таўшчынёю 0,8—1,0 мэтр. уплыву экстэнсіўнай асушкі не паддаецца.

г) Паказаны пераход балот у лясныя плошчы адбываецца незалежна ад глыбіні торфу (раней у літаратуры лічылі наадварот)—калі корні дрэва дасягаюць падглебы, узрост іх ідзе лепш.

д) Чым дрэва маладзей у час абсушкі, тым лепш яго прырост пасьля абсушкі.

е) Лесу на абсушаных балотах вельмі шкодзяць пажары; як мера барацьбы з імі—рабіць канавы на меншай адлегласьці

3. Па тэме „Рэнтабельнасьць інтэнсіўнай культуры балот“.

а) Даказана высокая рэнтабельнасьць інтэнсіўнай культуры балот.

б) Сярэдні чысты прыбытак з гэктару розных культур на тарпяніку каля 80 руб.

в) Сярэдняя аплата працоўнага дню каля 4 руб. 50 кап.

г) Вытворчасьць адзінкі выдаткаў—145,5%.

В. Па Менскай Балотнай Станцыі з шэрагу дасягненьняў трэба адзначыць:

1) Устанаўленьне норм абсушкі нізінных балот Беларусі ў мэтах палявой культуры: і адлегласьць між канавамі 30—50 мэтраў пры глыбіні 1 мэтр.

2) Вызначэньне норм і форм мінэральных угнаеньняў на балоце: найлепш камбінацыя калійных і фосфарных угнаеньняў.

3) Устанаўленьне спосабаў барацьбы з сарнінамі пры культуры балота: найлепш ужываньне мешанак.

4) Устанаўленьне найбольш выгаднай сыстэмы палявой гаспадаркі на балоце—травапольная сыстэма, і вызначэньне балотных севазваротаў.

5. Выпрацоўка некаторых спосабаў экстэнсіўнай культуры балот.

Г. Забалацкая Балотная Дасьледчая Гаспадарка за пяць год працы ва ўмовах неўрэгуляванага воднага рэжыму пры слабай асушцы толькі 4-мя абводнымі каналамі па межах гаспадаркі, з адлегласьцю у 80 і 120 сажняў, мае вельмі каштоўныя дасягненьні па вырашэньню найбольш элемэнтарных пытаньняў культуры балот:

1. Устаноўлен найбольш эфэктыўны спосаб павярхоўнага палепшаньня балота; баранаваньне + угнаеньне + падсеў траў і баранаваньне + угнаеньне — узрост ураджаю + 205 проц. і + 132 проц.

2. Вызначан час уборкі балотнай сенажаці: у час красаваньня злакаў і вясеньняга разнатраў'я.

3. Вызначаны ўгнаеньні, маючыя найбольшы ўплыў на Лукаўскім масыве (раён гаспадаркі): калійная соль і каініт, фосфар ня мае ніякага ўплыву.

4. Устаноўлены балотныя севазвароты: луга-палявы і луга-выганны.

На гаспадарчых засевах Дасьледчая Гаспадарка мела такія сярэднія ураджаі, гуртавы і чысты прыбытак:

| Культуры | Ураджай пудоў | Гуртавы прыбытак рублёў | Чысты прыбытак рублёў |
|---|---|---|---|
| Капуста (за 4 гады) . . | 2.036 | 812 | 605 |
| Каноплі (за 2 гады) . . | 71 п. канапель 30 п. пянькі | 354 | 205 |
| Бульба (за 4 гады) . . | 834 | 250 | 104 |
| Штучны луг (3 гады) . . | 385 | 192 | 95 |
| Авёс (3 гады) . . . | 75 п. зярна і 162 п. саломы | 152 | 50 |

Красамоўны даказ рэнтабельнасьці культуры балот на Беларусі!

## 5. Па лясной гаспадарцы.

А. Шырокая арганізацыя досьледаў па дэндралёгіі і біалёгіі дрэўных парод, біалёгіі лясных насаджэньняў і іх тыпаў на Беларусі.

Б. Досьлед па падсочцы сасны.

В. Складаньне табліц аб'ёму зьбегу і сартымэнтных; вызначэньне па беларускіх табліцах павялічвае кубатуру хваёвых на 15 проц.

### 6. Па мэтэаралёгіі.

А. Пачатак арганізацыі Абсэрваторыі.

Б. Выданьне „Кліматычнага Атлясу Беларусі".

---

## III. Заданьні дасьледчай справы ў сувязі з праблемай уздыму вытворчасьці сельскае і лясное гаспадаркі БССР.

1. Магчымасьці БССР па разьвіцьцю сельскае і лясное гаспадаркі бязьмежны. Пад засеўную плошчу Савецкая Беларусь скарыстоўвае ня больш 25 проц. усіх сваіх зямельных прастораў; павялічэньне засеўнае плошчы ў два разы ляжыць у межах рэальных гаспадарчых магчымасьцяў бліжэйшых дзесяцігодзьдзяў. У краінах Заходняй Эўропы з такімі-ж прыроднымі ўмовамі, як і на Беларусі, у Ўсходняй Прусіі і Пазнані, ня глядзячы на слаба разьвітую там прамысловасьць і гарадзкое жыцьцё,—дзякуючы лепшаму скарыстаньню зямельных плошчаў гушчыня насельніцтва ў два разы большая, чым у Савецкай Беларусі, і разам з тым гэтыя краіны экспортуюць вялізныя масы сельска-гаспадарчых прадуктаў. Ураджай БССР у два—два з паловай разы ніжэйшы, чым у Прусіі і Пазнані, з боку-ж прыродных умоў на Беларусі магчымы ўраджаі нават большыя, чым пазнанскія і прускія.

У бліжэйшыя 25—30 год БССР мае зусім рэальныя падставы, каб павялічыць гуртавую вытворчасьць сельскай гаспадаркі ў 4—5 разоў, давесьці гушчыню насельніцтва да 70—75 чалавек на кілёмэтр, з агульнай ёмкасьцю тэрыторый сучаснай БССР у 8½—9 мільёнаў насельніцтва.

2. Слабы ўздым ураджайнасьці сельскае гаспадаркі Беларусі ў мінулым, ня гледзячы на досыць вялікую інтэнсіўнасьць сельскае гаспадаркі, тлумачыцца ня толькі кепскімі прыроднымі ўмовамі (а яны ў БССР горш, чым у іншых раёнах Саюзу), але галоўным чынам, тою каленіяльнаю палітыкай, якую царскі ўрад праводзіў на Беларусі,ператварыўшы яе ў пастаўшчыцу рэзэрвовае арміі працы і сельска-гаспадарчае сырызны экстэнсіўнага тыпу (неапрацаваны лес, скуры, лён і г. д.). Разам з палітычным самавызначэньнем, як самастойная Савецкая Дзяржава, разам з калёсальным узростам

сацыяльнай і культурнай сьвядомасьці рэвалюцыйнага беларускага сялянства,—Беларусь атрымала непарушную гарантыю вялікага сельска-гаспадарчага прагрэсу.

Часова гэты прагрэс ішоў экстэнсіўным шляхам—шляхам павялічэньня засеўнае плошчы і стабілізацыі ўраджаю. Зараз БССР становіцца на шлях інтэнсіўнага павялічэньня вытворчасьці сельскае гаспадаркі, шлях уздыму ўраджайнасьці і прадукцыйнасьці жывёлы.

3. Канкрэтызацыя мерапрыемстваў па ўздыму ўраджайнасьці БССР ужо ёсьць; гэта мерапрыемствы, пералічаныя ў дакладзе тав. Якаўлева на сэсіі ЦВКС і мерапрыемствы, проэктуемыя спэцыялістымі НКЗБ. Вось пералік гэтых мерапрыемстваў:

Ураджайнасьць БССР павялічваецца да канца пяцігодзьдзя ад увядзеньня розных мерапрыемстваў на %%:

| Мерапрыемствы | Варыянт Якаўлева | Варыянт спэцыялістых НКЗБ: На ўсю засеўную плошчу | Варыянт спэцыялістых НКЗБ: На 1 гэктар. у %% |
|---|---|---|---|
| 1. Замена сахі плугам . . | 1.0 | 1,0 | 10 |
| 2. Сартаваньне . . . | 7.5 | 2,3 | 5 |
| 3. Гатунковае насеньне . . | 12.0 | 8,6 | 5—15, бульба 30—50 |
| 4. Радковы засеў . . . | 1.0 | 0.5 | 10 |
| 5. Барацьба са шкоднікамі . | 5.0 | 1.9 | 5 |
| Разам прасьцейшыя мерапрыемствы . . . | 26.5 | 14.3 | — |
| Са скідкай на сумесны ўплыў | 20.5 | 14.3 | — |
| 6. Мінэральнае ўгнаеньне . | 3.25 | 4,8 | 45 |
| 7. Пасьляўплыў угнаеньня . | 1.65 | 0.8 | 10 |
| 8. Вапнаваньне . . . | 1,2 | 0.5 | 10 (першы год) |
| 9. Калгасы і саўгасы . . | 2.6 | 0,8 | 20 |
| 10. Увядзеньне шматпалёвых савазваротаў . . . | 2,0 | 6,9 | 30—40 |
| Разам . . . . . . | 31,2 | 28.1 | — |
| 11. Павялічэньне натуральнага гною . . . . . . | — | 2.7 | 70 |
| 12. Лубінізацыя. . . . | — | 4.3 | 45 |
| 13. Тарфаваньне . . . | — | 0.1 | 30 |
| 14. Палепшаны папар (заняты) | — | 0.9 | 5 |
| 15. Зяблевае ворыва. . . | — | 0.6 | 5 |
| Усе мерапрыемствы . . | +31,2 | +36,7 | — |

Усе гэтыя мерапрыемствы, як накіроўваючыя, бясспрэчны для большасьці раёнаў БССР у сэнсе іх якаснага ўплыву. Але іх колькасны ўплыў па асобных раёнах БССР невядомы, бо досьледаў у масавым маштабе на гэтых мерапрыемствах не вялося, ня ўсе гэтыя мерапрыемствы вывучаліся на беларускіх дасьледчых станцыях, а калі і вывучаліся, дык вынікі ёсьць за малы лік гадоў (2—3 гады), значыцца яны няпэўныя. Трэба адразу канстатаваць факт адсталасьці разгортваньня дасьледчае справы ад тэмпу разьвіцьця сельскае гаспадаркі і сельска-гаспадарчага будаўніцтва ў БССР.

Каб абгрунтаваць прасьцейшыя агранамічныя мерапрыемствы ў сэнсе іх колькаснага ўплыву па асобных раёнах БССР, трэба паставіць досьледы па вывучэньню гэтых мерапрыемстваў у м а с а в ы м  м а ш т а б е, каб дзякуючы масавасьці ў найхутчэйшы час атрымаць пэўныя вынікі.

4. Прыняўшы пад увагу значную інтэнсіўнасьць сельскае гаспадаркі БССР трэба лічыць, што ў справе павялічэньня ўраджайнасьці і вытворчасьці сельскае гаспадаркі разам з эфэктам ад ажыцьцяўленьня прасьцейшых мерапрыемстваў галоўны эфэкт дадуць больш складаныя агранамічныя і зоатэхнічныя мерыпрыемствы: ліквідацыя папару, занятыя папары, падсеўныя і пажніўныя культуры, травасеў, палепшанае кармленьне, племенная справа, мінэральныя ўгнаеньні. Толькі правядзеньне ў сельскую гаспадарку больш складаных мерапрыемстваў стварае с а п р а ў д ы  н о в у ю  т э х н і ч н у ю  б а з у па рэканструкцыі сельскае гаспадаркі, базу для замацаваньня і пашырэньня сацыялістычных форм сельскае гаспадаркі. З другога боку ўвядзеньне сацыялістычных форм сельскай гаспадаркі, калектывізацыя сельскае гаспадаркі, стварае ўмовы для няўхільнага пераходу на новую тэхнічную базу, значыць зноў-жа для ажыцьцяўленьня складаных мерапрыемстваў сельска-гаспадарчай тэхнікі.

У зьвязку з гэтымі меркаваньнямі, а таксама ў зьвязку з большымі цяжкасьцямі па вывучэньню складаных сельска-гаспадарчых мерапрыемстваў і зьявішч,—трэба ў бліжэйшыя-ж гады асаблівую ўвагу аддаць дасьледваньню складаных форм сельска-гаспадарчага вытвору ва ўмовах БССР, такімі траба лічыць:

а) Сельска-гаспадарчая і лясная тэхналёгія, індустрыялізацыя сельскае гаспадаркі;

б) Мэліарацыя і культура балот;

в) Жывёлагадоўля;

г) Занятыя папары, беспапар'е, шматпалёвыя севазвароты;

д) Мінэральныя ўгнаеньні;

е) Сэлекцыя расьлін і жывёл.

5. У зьвязку з новымі заданьнямі, ня толькі адносна пашырэньня аб'ёму дасьледчае працы, але і адносна тэмпу дасьледваньня, ускладаньня аб'ектаў і мэтадаў дасьледваньня,—дасьледчым установам БССР трэба:

а) Павялічыць якасьць навукова-дасьледчае працы;

б) Адшукаць новыя мэтады дасьледваньня, якія прысьпешылі-б найхутчэйшае дасягненьне вынікаў.

У сэнсе палепшаньня якасьці навукова-дасьледчае працы, неабходна:

а) Забясьпечыць дасьледчыя ўстановы неабходнымі зямельнымі плошчамі, гэта асабліва датычыцца Беларускай Сельска-Гаспадарчай Акадэміі, зямельную тэрыторыю якой у Горках трэба павялічыць на 100—150 гэктар; Менскай Расьлінаводнай Станцыі, якую абавязкова трэба безадкладна перавесьці на новую тэрыторыю былых зямель саўгаса М. Сьляпянка; Станцыі па вывучэньню буйнае рагатае жывёлы, дзеля якой трэба арганізаваць новую зоатэхнічную фэрму па магчымасьці каля Менску, напрыклад, каля тэрыторыі Выстаўкі Сельскае Гаспадаркі і Прамысловасьці; забараніць спэцыяльнай пастановай СНК рабіць якія-небудзь абрэзкі зямель дасьледчых станцый, як гэта мела, напрыклад, на Віцебскай Станцыі;

б) Узмацніць навуковае абсталяваньне дасьледчых станцый;

в) Самым інтэнсіўным чынам весьці падрыхтоўку кадраў маладых беларускіх дасьледчыкаў і падвышэньне навуковае кваліфікацыі старэйшых кадраў шляхам доўгатэрміновых камандыровак за межы і ў межах Саюзу;

г) Завесьці на ўсіх дасьледчых станцыях навуковыя бібліатэкі з належным лікам літаратуры на чужаземных мовах;

д) Пабудаваць шэраг новых будынкаў, спэцыяльна для навуковых мэтаў дасьледчых установаў;

е) Удасканаліць мэтодыку досьледаў, як шляхам найшырэйшага ўжываньня аграхімічнага, біахімічнага і вэгэтацыйна-фізіалёгічнага мэтадаў, мэтаду паралельных вэгэтацыйных,

лізімэтрычных і палявых досьледаў, так і шляхам пастаноўкі вывучэньня мэтодыкі дасьледваньняў.

У сэнсе ўжываньня мэтадаў працы, якія прысьпешылі-б найхутчэйшае атрыманьне вынікаў, неабходна ўзяць н а п р а м а к н а м а с а в а с ь ц ь дасьледчае працы. Цэлы шэраг досьледаў, не вымагаючых вельмі складанае мэтодыкі вывучэньня можа быць пастаўлен у сялянскіх гаспадарках, тым больш у саўгасах, калгасах, на школьных вучастках і гэтак далей. Пастаноўка досьледаў у сялян або ў буйных гаспадарках вельмі пашырана ў Заходняй Эўропе; давол адзначыць, што найвыдатнейшы дацкі дасьледчык-зоотэхнік прафэсар Lars Frederiksen усе свае досьледы, з вельмі тонкімі мэтадамі дасьледваньня праводзіць выключна ў аборах соцен гаспадароў Даніі; досьледы па расьлінагадоўлі ў Даніі праводзяцца прыблізна ў 3.000 гаспадарках, пад кіраўніцтвам спэцыяльных мясцовых аграномаў на сродкі коапэрацыйных саюзаў і дзяржавы; сумеснай працы гэтых дасьледчых гаспадарак і дасьледчых станцый у Даніі надаецца надзвычайнае значэньне [1]). У Усходняй Прусіі вялікая дасьледчая праца вядзецца у сялян пад кіраўніцтвам Мітчэрліха праз спэцыяльнае дасьледчае таварыства яго імені; у Нямеччыне пашыраны так званыя „кальцавыя досьледы“ (Ringsversuche), якія нагадваюць былыя калектыўныя досьледы і г. д. З невялікай практыкі працы з сялянамі-дасьледчыкамі ў БССР можна адзначыць, што некаторыя досьледы ў сялян давалі вельмі здавальняючыя вынікі, „якімі можна сьмела карыстацца“ [2]).

Пакуль што па БССР ёсьць толькі 844 члены Інстытуту Сялян-Дасьледчыкаў (у 1927 годзе—474 і 1926 г.—63 члены). Каб мець сапраўды пэўныя вынікі, трэба ўсямерна павялічваць лік сялян-дасьледчыкаў, давёўшы яго ў ідэале да 2 проц. усіх сялянскіх гаспадарак БССР (дацкая норма), г. зн. да 16.000 гаспадарак, да 2.000 гаспадарак на акругу і да 150 гаспадарак на 1 агранамічны раён.

---

[1]) Pfianzenbauversuche in Dänemark von L. P. M. Larsen „Dänische Handelsrundschau“ 1925.

[2]) Праф. С. В. Скандракоў. „Кароткі нарыс арганізацыі працы сялян-дасьледчыкаў пры Аддзеле агульнага ральніцтва Горацк. С.-Г. Раён. Дасьл. Станцыі ў 1927 г.“ у „Выніках працы інстытуту сялян-дасьледчыкаў“ 1927 г., стар. 86. Досьледы з уплывам супэрфасфату на ўраджай бульбы ў 12 сялян каля Горак.

У працу інстытуту сялян-дасьледчыкаў трэба ўцягнуць усе саўгасы, усе калгасы, шырокія колы краязнаўцаў, настаўніцтва, сельска-гаспадарчыя гурткі, камсамольскія арганізацыі, коапэрацыю і гэтак далей. Асабліва неабходны ўдзел у дасьледчай працы саўгасаў, як сацыялістычных форм сельскае гаспадаркі, якія ўсю сваю працу павінны грунтаваць на выніках навуковага досьледу. Пакуль што ў 1928 г. досьледы ставіліся ў 22 саўгасах, у 1927 годзе ў 13 саўгасах.

Але цэнтральнай фігурай у інстытуце сялян-дасьледчыкаў павінен быць аграном. Зараз аграномы прымаюць слабы ўдзел у дасьледчай працы, са шкодай для сябе і для дасьледчае справы [1]). Шаблёнаў сельска-гаспадарчае тэхнікі няма. Амаль кожнае агранамічнае мерапрыемства аграном павінен пракантраляваць у мясцовых умовах раней, чым раіць яго для шырокай практыкі. Паколькі гэтага няма, трэба мяркаваць, што беларускія аграномы працуюць па шаблёну; а таму, што беларускага шаблёну ня было калі і ня было як выпрацаваць, ня было магчымасьці перадаць яго беларускаму аграному з-за поўнай адсутнасьці беларускае агранамічнае літаратуры, дык відаць агранамічная праца на Беларусі ідзе па перанесеных агранамічных шаблёнах з розных раёнаў РСФСР. Гэта павінна надта зьмяншаць эфэктыўнасьць агранамічнае працы ў БССР.

Перарабіўшыся з агранома-эмпірыка, з агранома-рамесьніка, а часта і агранома-канцэлярыста, у агранома-дасьледчыка,—беларускі аграном атрымаў-бы зусім новыя сьвежыя стымулы сапраўднае агранамічнае творчасьці ў сваім раёне.

Праўда, аграном ужо набіў аскому ад няцікавае мэханічнае працы па закладцы паказальна-дасьледчых вучасткаў. Але само ператварэньне „паказальных“ вучасткаў у дасьледчыя, ажывіць працу агранома, надасьць ёй глыбейшы сэнс, сэнс агранамічнага шуканьня, і скарыстае багаты матар‘ял і сродкі, якія ідуць на паказальныя вучасткі, на ўстанаўленьне агульна-значымых для раёну дасьледчых вынікаў.

Апрацоўку і нават друкаваньне вынікаў сялянскіх досьледаў трэба рабіць на агра-раёнах, з удзелам саміх аграно-

[1]) Слабая сувязь дасьледчых установаў і агранамічных арганізацый характэрна і для РСФСР. гл. „Значение опытного дела в поднятии крестьянского хозяйства“ НК РКИ РСФСР М. 1925 г.

маў. Толькі пры ўдзеле агранома ў дасьледчай працы можна скласьці цэлую сыстэму мерапрыемстваў па ўздыму ўраджайнасьці паасобных дробных раёнах БССР.

Разам з падагульненьнем вынікаў сялянскага досьледу, раённы агранparam мог-бы даць і агранамічнае апісаньне свайго раёну, і штогодняе апісаньне прагрэсыўных зьмен у сельскай гаспадарцы раёну, і нават больш удала, чым хто іншы, апісаньне гаспадарак перадавых сялян-дасьледчыкаў [1]).

6. Напрамку на масавасьць правядзеньня досьледаў павінен адпавядаць напрамак на масавасьць пашырэньня вынікаў дасьледчых устаноў. Навуковыя справаздачы дасьледчых устаноў павінны сваечасова друкавацца, а не залежвацца ў архівах. А між тым маладыя дасьледчыя ўстановы БССР ужо маюць „залежы“ ненадрукаваных прац: Горацкая Дасьледчая Станцыя, Менская, НДІ і гэтак далей. Выдрукаваныя працы некаторых дасьледчых станцый дзеля эканоміі на друку страшэнна скарочаны, даведзены проста да канспэкту, напрык., па Горацкай Дасьледчай Станцыі. Трэба адзначыць, як факт нашага вялікага нядбайства і бюрократызму, тое сумнае зьявішча, што на Беларусі не знайшлося сродкаў дзеля выдрукаваньня вынікаў Стэбутаўскага Дасьледчага Поля за 1840—1864 гады, падсумаваных У. У. Вінэрам, не хапіла сродкаў, каб паставіць архіўную распрацоўку вынікаў гэтага поля і Горацкае фэрмы да канца. А тым часам, як паведамляе прафэсар М. М. Пелехаў[2]): архіў Стэбутаўскага дасьледчага поля і Горацкае фэрмы „после от‘езда из Горок проф. Винера был использован не совсем по назначению: им впродолжение одной зимы растапливались печи работников Академии, живущих на ферме, поэтому архив во многом неполон и сильно разрознен, отчеты за некоторые годы уже сожжены“. Трэба хоць к 1930 году, часу 90-годзьдзя першай

---

[1]) Гл. падробныя апісаньні па Усходняй Прусіі „Wirtschaftsbeschreibungen ostpr. bäuerlicher Wirtschaften. Königsberg-Pr. 1924 г. М. З. Лайкоў у артыкуле „Агрономия, опытные учреждения и институт крестьян-опытников“ (Совет. Строительство № 8-9 1928 г.) выказваецца супроць непасрэднага ўдзелу агранома ў дасьледчай працы.

[2]) „К истории опытного сел. хоз.-дела в России“, стар. 82.

у СССР і Беларусі Дасьледчае Ўстановы — Стэбутаўскага Поля—выдрукаваць вынікі ўсіх досьледаў, зробленых у стары час у Горках, распрацаваць вынікі гэтых досьледаў па архіўнаму матар‘ялу Горак і Ленінграду, хаця-б гэтыя вынікі мелі нават у значнай частцы толькі гістарычную цікавасьць.

Навуковыя справаздачы дасьледчых станцый павінны рассылацца ўсім раённым агранамічным арганізацыям БССР, саўгасам, калгасам, дакладвацца на агранамічных канфэрэнцыях, зьездах і г. д.

Некаторыя вынікі павінны выдрукавацца ў форме лістовак па 50—100 тыс. экзэмпляраў для дармовай раздачы сялянам. На Ўсебеларускай выстаўцы сел. гаспадаркі і прамысловасьці павінна быць ня менш 80.000 сялян (10% ад ліку сялянскіх двароў), каб сапраўды шырокія масы пазнаёміліся з дасягненьнямі дасьледчых станцый. Лік экскурсантаў на раённых станцыях павінен быць даведзен да 1500—2000 сялян у год.

Толькі самая цесная сувязь дасьледчае справы з вытворчасьцю дапаможа вытворчасьці сваечасова рэалізаваць каштоўныя, навуковыя дасягненьні дасьледчых станцый, выкарыстаць працу дасьледчых устаноў дзеля справы сацыялістычнага будаўніцтва.

* * *

У заключэньні ня можна не пажадаць, каб найхутчэй арганізавалася Ўсесаюзная Акадэмія сельска-гаспадарчых і лясных навук імя Леніна, як фэдэрацыя саюзных навуковадасьледчых інстытутаў. Гэты момант можна наблізіць самым паскораным будаўніцтвам дасьледчай справы ў саюзных, асабліва ў акраінных рэспубліках, і ў тым ліку ў нас, у БССР. Плянавае сацыялістычнае будаўніцтва цьвёрда высоўвае БССР на тое месца па дасьледчай справе ў Саюзе Рэспублік, якое ёй належыць па інтэнсіўнасьці яе сельскае і лясное гаспадаркі.

---

# ТЭЗІСЫ

дакладу Бюро Сялян-Дасьледчыкаў аб працы Інстытуту Сялян-Дасьледчыкаў за мінулыя гады.

1. Бюро Сялян-Дасьледчыкаў пры НДІ арганізавалася, выходзячы з палажэньня аб НДІ імя *Леніна.* У структуры НДІ Бюро зьяўляецца ворганам агульным для ўсіх Аддзелаў НДІ і станцый, а таксама агульным для дасьледчых установаў НДІ і НКЗ. Бюро складаецца з 2 прадстаўнікоў ад НДІ, 2 ад НКЗ і 1 ад сялян-дасьледчыкаў. Сталы рабочы склад Бюро складаецца з 2 чалавек—Загадчык і 1 спэцыялісты. Па асобных пытаньнях Бюро запрашае на свае паседжаньні адпаведных спэцыялістых НДІ, НКЗ, а таксама прадстаўнікоў зацікаўленых арганізацый.

2. Перад Бюро была пастаўлена задача арганізаваць сувязь паміж дасьледчай працай і вытворчасьцю, паміж дасьледчымі ўстановамі і шырокімі коламі сялянства, с.-г. спэцыялістымі і грамадзкімі арганізацыямі; знайсьці найбольш адпавядаючыя для сучаснага моманту формы гэтай сувязі і мабілізаваць актыўнасьць і самадзейнасьць сялянства для каляктыўнага, разам з дасьледчымі ўстановамі і пад іх кіраўніцтвам, вырашэньня пытаньняў па ўздыму сельскае гаспадаркі.

3. У вырашэньні гэтых задач Бюро стала на шлях ажыцьцяўленьня тэй ідэі, якая была высунута яшчэ да арганізацыі Бюро, але ня была ўкладзена ў пэўныя формы—гэта ідэя арганізацыі Інстытуту сялян-дасьледчыкаў. Справа арганізацыі Інстытуту Сялян-Дасьледчыкаў новая і ў розных мясцох падыходзяць да яе па рознаму.

4. Бюро стала на такі шлях арганізацыі Інстытуту Сялян-Дасьледчыкаў:

а) паставіла перад сабою задачу стварыць сталую, моцную масавую арганізацыю, паклаўшы ў аснову арганізацыі актыўнасьць і самадзейнасьць саміх сялян;

б) праца гэтай арганізацыі павінна мець плянавы і сыстэматычны характар з непасрэдным удзелам у ёй самога селяніна, у працэсе якой селянін павінен ліквідаваць сваю агранамічную няпісьменнасьць і стаць сталым дасьледчыкам;

в) праграмы і пляны Інстытуту Сялян-Дасьледчыкаў павінны быць шчыльна зьвязаны з праграмамі і плянамі дасьледчых станцый і агранамічных арганізацый. Гаспадаркі Сялян-Дасьледчыкаў павінны быць нізавымі ячэйкамі дасьледчых Станцый, апорнымі пунктамі аграномаў, а ўся сыстэма працы павінны быць вытворчай агранамічнай школай сялян.

5. Выходзячы з гэтых палажэньняў, структура Інстытуту Сялян-Дасьледчыкаў вылілася ў наступную форму: нізавая ячэйка сялян-дасьледчыкаў у кожным адмінстрацыйным раёне на чале з раённым аграномам. Гэтыя ячэйкі па эканамічных раёнах аб'яднаюцца Саветам Дасьледчых Станцый і ва Ўсебеларускім маштабе яны складаюць масавую арганізацыю—Інстытут Сялян-Дасьледчыкаў, з Цэнтральным органам Бюро Сялян-Дасьледчыкаў. У склад Бюро і Саветаў Станцый уведзены прадстаўнікі ад сялян-дасьледчыкаў. Функцыі і ўзаемаадносіны паасобных частак гэтай арганізацыі рэгулююцца палажэньнем аб Інстытуце Сялян-дасьледчыкаў.

6. Выкананьне пастаўленых задач можна бачыць з наступных лічбаў: сялян-дасьледчыкаў было:

| | | |
|---|---|---|
| ў | 1926 г. . . . . | 63 |
| „ | 1927 „ . . . . | 474 |
| „ | 1928 „ . . . . | 844 |

У сучасны момант маем буйную арганізацыю, якая з кожным годам бязупынна расьце. Удзельная вага паасобных груп дасьледчыкаў у 1928 г. наступная: індывідуальныя сяляне складаюць—90,2 проц., калгасы—4,9 проц., савгасы—2,6 проц., школы — 1,2 проц., мэліарацыйныя таварыствы—0,9 проц. і камітэты ўзаемадапамогі—0,2 проц.

У параўнаньні з 1927 г. ня гледзячы на тое, што лік калгасаў павялічыўся на 200 проц., а саўгасаў—42,8 проц. удзельная вага іх застаецца зусім яшчэ малая. Сацыяльны склад індывідуальных сялян у асноўным серадняцка-бядняцкі. У параўнаньні з 1927 г. значна палепшыўся. Залі-

чэньне сялян-дасьледчыкаў Саветамі Станцый яшчэ не праведзена.

7. У 1928 г. Інстытутам Сялян-дасьледчыкаў праведзена 1010 досьледаў, у лік якіх уваходзяць 378 досьледаў па сортаапрабаваньню галоўных культур.

Па галінах досьледы разьмяркоўваюцца так: культура балот—48, гародніцтва—12, культура лекавых расьлін—27, а рэшта па паляводзтву.

У параўнаньні з 1927 г. агульны лік досьледаў павялічыўся на 709.

Асноўная маса досьледаў праведзена з угнаеньнямі па пытаньнях ужываньня мінэральных угнаеньняў, лубіну, торфу і інш. пад розныя культуры. Досьледы праводзяцца па адзінай праграме дапасаванай да ўмоў раёнаў Станцыі, узгодненай з зямельнымі органамі і паміж паасобнымі Станцыямі. Мэтодыка правядзеньня палявых досьледаў, як правіла, прынята наступная: вучотная плошча дзелянак 100 кв. мэт., паўторнасьць двухразовая. Якасьць правядзеньня досьледаў здавальняючая. Пастаноўка досьледаў па жывёлагадоўлі і садоўніцтву зусім яшчэ нераспачата.

8. Кіраваньне працаю праводзіцца выяздамі на месцы, склікаьнем канфэрэнцый, нарад, выданьнямі інструкцый і г. д. У гэтым годзе праведзены канфэрэнцыі пры кожнай Раённай Станцыі—усяго ўдзельнічала 500 чал. (сяляне, аграномы, кіраўнікі саўгасаў, прадстаўнікі калгасаў і школ). Праведзены нарады ў некаторых раёнах, акругах і школах. Праведзены завочныя курсы праз часопіс „Плуг“. Выдана літаратуры 14 друкаваных аркушаў. Праводзіцца папулярызацыя вынікаў праз друк, справаздачамі сялян-дасьледчыкаў на сходах, удзелам сялян-дасьледчыкаў на выстаўках і г. д.

9. Удзел грамадзкіх арганізацый зусім яшчэ нязначны. Партыйныя і Камсамольскія арганізацыі амаль зусім ня прымаюць удзелу ў працы. Усяго ў арганізацыі маецца ня больш пяці партыйцаў і 15 камсамольцаў. Ячэйкі Асо і С.-Г. гурткі прымаюць слабы ўдзел. Раённая агранамія прымае ўдзел у працы Інстытуту Сялян-Дасьледчыкаў, але-ж не заўсёды здавальняючы, у зьвязку з яе вялікаю загружанасьцю.

10. Для ўзмацненьня і пашырэньня працы Інстытуту сялян-Дасьледчыкаў неабходна правесьці карануюрэарганіза-

цыю дасьледча-паказальных вучасткаў. Пры акругах неабходна ўвесьці па аднаму спэцыяльнаму чалавеку, а ў адміністрацыйных раёнах у дапамогу аграномам—практыкантаў. Павялічыць асыгнаваньні Інстытуту С.-Д. У сувязі з арганізацыяй аддзелаў прыстасаваньня працы Інстытуту С.-Д. павінна ўвайсьці ў гэтыя Аддзелы і ўся праца Аддзелаў, павінна каардынавацца таксама Бюро Сялян-Дасьледчыкаў, куды Загадчыкаў Аддзелаў неабходна будзе ўвесьці альбо сябрамі Бюро, альбо сталымі членамі Пленуму Бюро.

---

## Плян працы на 1928-29 год.

1. Пашырэньне сеткі сялян-дасьледчыкаў да наступных памераў: Савгасаў—42, школ—60, Ячэек Асо—60, індывід. сял.—185, Калгасаў—191, мэліорац. Т-ваў—51, Каміт. узаема-дапамогі—1. Усяго 1590.

2. Правядзеньне досьледаў:

а) па раёнах і калгасах:

| | |
|---|---|
| па сортаапрабаваньню | 881 |
| з угнаеньнямі, апрац. і інш. | 2020 |
| Усяго | 2901 |
| б) у саўгасах | 400 |
| | 3301 |

Па галінах яны разьмяркоўваюцца так:

| | |
|---|---|
| па культуры балот | 170 |
| лекавыя расьліны | 200 |
| гародніцтва | 20 |
| паляводзтва | 2911 |
| | 3301 |

3. Распачаць працу па жывёлагадоўлі і садоўніцтву.

4. Правесьці дэталёвае вывучэньне гаспадарак сялян-дасьледчыкаў.

5. Арганізаваць аграхімічнае вывучэньне глебы сел. дасьл. вучасткаў і эканамічнай ацэнкі вынікаў досьледаў.

6. Правядзеньне канфэрэнцый пры кожнай раённай дасьледчай Станцыі і 1 канфэрэнцыя для ўсіх Станцый НДІ і разам з гэтым экскурсый на дасьледчыя палі.

7. Правядзеньне двух нарад (вясна і восень) у кожным адміністрацыйным раёне. Арганізацыя экскурсій да больш выдатных дасьледчыкаў і пашырыць правядзеньне справаздач с.-д. на сходах.

8. Павесьці сыстэматычную падрыхтоўку сял.-дасьлед. для таго правесьці 1 Усебеларускія курсы сялян-дасьлед. у Менску і раённыя пры дасьледчых Станцыях. Увесьці ў праграмы агранам. курсаў пытаньні пастаноўкі досьледаў.

9. Арганізаваць музэі пры Станцыях і дамах Селяніна і куткі пры хатах-чытальнях.

10. Арганізаваць выстаўкі перасоўкі і ўдзел у раённых выстаўках.

11. Выдаць шэраг папулярных брашур, плякатаў і лістовак.

12. Весьці падрыхтоўку да Ўсебеларускай Выстаўкі.

---

# ЗЬМЕСТ

